*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 39 (1852)**

Чацвер, 4 сакавіка 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля»
Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — -6...-4, уначы — -12...-10; у Брэсце ўдзень — -5...-3, уначы — -9...-7; у Гродне ўдзень — -6...-4, уначы — -10...-8; у Віцебску ўдзень — -8...-6, уначы — -12...-10; у Гомелі ўдзень — -4...-2, уначы — -8...-6; у Магілёве ўдзень — -4...-2, уначы — -11...-9.

Па ўсёй краіне на працягу сутак — снег.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## У Беларусі распрацавана сістэма электроннага галасавання. Ці зацікавіцца ёю Цэнтрвыбаркам?

Пра гэта паведаміў дырэктар Аб'яднанага інстытута праблем інфарматыкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі **Сяргей Абламейка.**

Паводле яго слоў, сістэма, прызначаная для выбараў і рэферэндумаў, поўнасцю выключае ўмяшанне, якое можа паўплываць на вынікі галасавання.

Кошт аднаго электроннага ўчастка складае каля 2 тысяч долараў ЗША. Укараненне сістэмы ў практыку залежыць толькі ад прыняцця адпаведнай заканадаўчай базы і зацікаўленасці Цэнтрвыбаркама.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## Нумарныя знакі для ўсіх машын аднолькавыя

У канцы сакавіка ў Мінску міжраённыя рэгістрацыйна-экзаменацыйныя аддзелы ДАІ пры рэгістрацыі аўтатранспартных сродкаў будуць выдаваць іх уладальнікам дзяржаўныя нумарныя знакі новага ўзору.

Яны, паведаміў міністр унутраных спраў Беларусі **Уладзімір Навумаў,** будуць адзінымі для ўсіх катэгорый грамадзян. Гэта значыць, як паясніў У.Навумаў, не будзе нумарных знакаў розных ведамстваў. Зараз нумарныя знакі транспарту МУС, пагранвойскаў, Мінабароны адрозніваюцца ад стандартных колеравым фонам. Застануцца толькі спецыяльныя нумарныя знакі аўтатранспарту дыпламатычнага корпуса. Адметнымі асаблівасцямі новых знакаў, што маюць сем ступеняў аховы, з'яўляюцца: чорныя лічбы на белым фоне, лічбавае абазначэнне вобласці і горада Мінска (сталіцы прысвоена лічба "7", абласцям — па ўзрастаючай ад "1" у алфавітным парадку), выява дзяржаўнага сцяга.

У рэгіёнах новыя нумарныя знакі пачнуць выдаваць пазней.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Усё больш беларусаў карыстаюцца Інтэрнетам

Паслугамі камуціруемага доступу да Ітэрнета ў Беларусі штогод карыстаюцца каля 1,5 мільёна абанентаў. Пра гэта паведаміў начальнік упраўлення перадачы звестак рэспубліканскага аб'яднання "Белтэлекам" Алег Сякліцкі 2 сакавіка на VI беларускім інтэрнет-форуме "by'2004".

Паводле слоў прадстаўніка "Белтэлекама", толькі паслугай беспарольнага доступу ў Інтэрнет летась пакарысталіся 1 млн. 375 тысяч абанентаў. Рост за 2003 год склаў 73 працэнты. Яшчэ 22.700 абанентаў карыстаюцца паслугамі доступу ў Інтэрнет на аснове дагавораў, заключаных з "Белтэлекамам". Іх прырост за 2003 год склаў 25 працэнтаў. Пры гэтым Алег Сякліцкі зазначыў, што тэмпы прыросту колькасці карыстальнікаў Інтэрнетам у Беларусі захоўваюцца, таму хутка асноўнай праблемай можа стаць недастатковы аб'ём паслуг і сервісаў, якія прапануе беларускі сегмент сеткі.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Амбасада Украіны ў Беларусі адкрыла свой інтэрнет-сайт

Любы жыхар Беларусі, хто набярэ электронны адрас www.ukraine-emb.by, трапіць на сайт украінскай амбасады ў нашай краіне. Доступ да сайта свабодны. І зроблена гэта для таго, каб "садзейнічаць далейшаму развіццю ўкраінска-беларускіх адносін, наладжванню кантактаў паміж суб'ектамі гаспадарання дзвюх краін". Менавіта такую мэту акрэсліў у гутарцы з журналістамі пасол Украіны ў Беларусі Пётр Шапавал.

**Уладзімір ГЛОД.**

## Салдаты загінулі, а іх сем'ям абяцаюць звыш 4 мільёнаў

Страхавыя выплаты ў суме 250 базавых велічынь атрымаюць бацькі загінуўшых салдат в/ч часці 15325. Пра гэта паведамілі ў ваенным камісарыяце Гомельскай вобласці.

Нагадаем, што трое салдат гэтай часці, у ліку якіх гамяльчанін Аляксей Сонцаў, жыхар Петрыкава (Гомельская вобласць) Алег Царун і Леанід Харлап з Бабруйска (Магілёўская вобласць), загінулі ад атручэння чадным газам у ноч на 21 лютага падчас сутачнага нараду. Мінская міжгарнізонная ваенная пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу і праводзіць расследаванне гэтага здарэння.

Паводле інфармацыі абласнога ваенкамата, 2 сакавіка бацькам загінуўшых салдат прадаставілі ўсю інфармацыю аб ільготах, на якія яны маюць права, і паведамілі, што ў бліжэйшыя дні будзе выдадзена пасведчанне сям'і загінуўшага ваеннаслужачага. Ужо закончана афармленне дакументаў на выплату страхавых сум. Цяпер трэба будзе аформіць рахунак у банку, на які будуць пералічвацца грошы.

У Гомельскім аблваенкамаце таксама паведамілі, што ваенная пракуратура пачала праверку даных наконт фізічных катаванняў, якім, паводле звестак сям'і Сонцавых, падвяргаліся салдаты падчас праходжання тэрміновай службы.

**Алена ПАСКАННАЯ.**

**ТЕМА ДНЯ**

# «Газпром» готов, но за 50 долларов

Российская компания "Транснафта" и белорусский госконцерн "Белтрансгаз" подписали новый контракт на экспорт газа в Беларусь. *"Соглашение рассчитано на поставку 200 млн. кубометров газа по февральской цене 46,68 долл. за 1000 кубометров"*, — сообщил в интервью корр.ИТАР-ТАСС начальник газового департамента "Транснафты" Денис Виноградов. По его словам, *"этих объемов Беларуси хватит на 3-4 дня"*.

РИА "Новости" добавляет, что "Транснафта" остается последним независимым поставщиком газа, с которым "Белтрансгаз" заключает кратковременные договоры о поставках. Предыдущий контракт был подписан на два дня — 1—2 марта. По словам Виноградова, задолженность "Белтрансгаза" перед "Транснафтой" за февраль за поставки газа составляет 39 миллионов долларов, за март — 4,9 миллиона долларов.

"Газпром" не поставляет газ в республику с 1 января текущего года. Аналитики прогнозировали, что во вторник "Газпром" и "Белтрансгаз" подпишут договор на поставки российского газа в Беларусь и на его транзит через территорию республики. Однако, как заявил зампредседателя правления концерна Александр Рязанов, *"у нас с Беларусью ситуация следующая: нет контракта ни на поставки, ни на транзит"*. Вместе с тем, по его словам, "Газпром" подтвердил свою готовность поставлять газ в объеме 10,2 миллиарда кубометров в год по цене примерно 50 долларов за кубометр. "Газпром" готов поставлять газ и по льготной цене, но только после создания совместного газотранспортного предприятия на базе "Белтрансгаза". Правда, как мы уже сообщали, россияне хотели бы завладеть этим важным предприятием по цене в пять раз ниже той, которая определена белорусской стороной.

Что же касается так называемых независимых поставщиков, то они могут поставлять газ в Беларусь не более полугода. На большее у них нет ресурсов. Так что ситуация не простая.

**Сергей ИВАНОВ.**

**ЗАКУЛИСЬЕ**

# «Этот козел будет еще меня учить!..»

*Уже который день квартира бывшего председателя Национальной государственной телерадиокомпании Егора Рыбакова пустует. Его жена Оксана уехала оттуда практически сразу после задержания мужа. Соседи говорят, что с тех пор ее не видели.*



*Говорят, кабинет Рыбакова может занять Александр Григорьевич. Столяров. Когда-то уже возглавлявший телерадиоведомство, а ныне работающий в Белорусском телеграфном агентстве.*

**Фота ByMedia.net**

Как уже сообщалось в прессе, Оксана в сопровождении двух людей в штатском на семейном "Джипе" уехала в неизвестном направлении. Может, за границу. Может, в какой-то загородный дом, подальше от любопытных глаз. А может, просто к маме...

Позавчера А.Лукашенко принял с отчетом генерального прокурора **Виктора Шеймана,** который проинформировал его о ходе расследования ряда уголовных дел, получивших большой общественный резонанс.

Так, по сообщению пресс-службы президента, Республиканская прокуратура продолжает следствие по уголовному делу в отношении бывшего председателя Белтелерадиокомпании **Егора Рыбакова.** "Ему предъявлено обвинение **в получении взяток в крупном размере.** Проверяются и иные действия обвиняемого, осуществленные против интересов службы. ***На данный период следствием у Рыбакова изъято более 100 тысяч долларов США,*** полученных им в результате противоправной деятельности".

Пресс-секретарь прокуратуры **Юрий Азаренок** говорит, что пока никаких новых данных, о которых можно было бы официально сообщить, в деле Е.Рыбакова нет. Идет следствие. Фамилию следователя, который занимается этим делом, Юрий Владимирович также не называет, ссылаясь на то, что следователь сам просил его об этом.

Как выяснила "Народная воля" по другим каналам, расследованием дела Рыбакова занимается не один следователь, а специальная группа. И якобы лично генпрокурор строго-настрого персонально предупредил всех, кто входит в ее состав, о недопустимости даже малейшей утечки информации. В кулуарах прокуратуры говорят, будто следователям категорически запрещено обсуждать подробности данного дела со своими коллегами. Чем вызвана подобная конфиденциальность, остается только догадываться... Кстати, может, именно отсутствие какой-либо дополнительной информации из официальных источников порождает самые разные слухи о несметных богатствах Рыбакова.

Так, в коридорах Белтелерадиокомпании судачат о том, с каким размахом незадолго до ареста Егор Рыбаков отмечал свой день рождения в Киеве *(заметьте, не в Минске, а в Киеве)*. За энную сумму он якобы арендовал крутой пароход, на котором на Днепре до упаду веселились все приглашенные. Веселились так, что Е.Рыбаков опоздал на поезд, которым должен был вернуться в Минск. А тут внезапно выяснилось, что утром он должен присутствовать на одном из совещаний в резиденции президента. Рассказывают, что председатель Белтелерадиокомпании не растерялся: он будто бы оплатил специальный авиарейс и в назначенный час как ни в чем не бывало явился на совещание.

Среди высокопоставленных чиновников долгое время ходили слухи о том, что Рыбаков — правая рука Лукашенко: мол, молодой руководитель в любое время дня и ночи может позвонить главе государства, "заложить" любого министра, например, отказавшегося дать интервью БТ, или "губернатора", который *"не так понимает"* роль местной телестудии... Может, эти слухи распускал сам Рыбаков, которому действительно хотелось верить в свою могущественность. Хотя вполне вероятно, что они могли возникнуть и после некоторых совещаний в Администрации президента с участием Рыбакова. Отдельные высокопоставленные чиновники до сих пор вспоминают, как Егор Владимирович после подобного совещания, которое проводил один из самых ближайших назначенцев Лукашенко, в сердцах бросил в его адрес: ***"Этот козел будет еще меня учить!"***. Ясное дело, что в стенах Администрации президента сила стука сильнее, чем сила звука. Если тот, о ком были эти слова сказаны, сам их не услышал, то ему наверняка их красноречиво пересказали... И тогда многим стало понятно: совсем оборзел парень!

Насколько это так, как и многое другое, окончательно станет известно после того, как свое слово скажут вначале следствие, а затем и суд.

**Анна ПАВЛОВА.**

**ДЕМОКРАТИЯ ПО-БЕЛОРУССКИ**

# Посольство Беларуси в Гааге отказалось принять петиции

Начиная с 10 декабря, Дня Всеобщей декларации прав человека, активисты голландского отделения авторитетной правозащитной организации Amnesty International собрали более 250.000 подписей в защиту борцов за права человека по всему миру. "Это те мужчины и женщины, которые в одиночку или вместе с другими пропагандируют и защищают признанные во всем мире права и основные свободы. Во многих странах из-за своей деятельности они подвергаются большой опасности", — говорится в пресс-релизе Amnesty International. Подписи были упакованы в 10 коробок, каждая по 25.000 подписей. 24 февраля их привезли в Гаагу на машинах-пикапах. Коробки были адресованы посольствам стран, где подвергаются преследованию правозащитники. Одна из этих стран — Беларусь.

Еще месяц назад Amnesty International объявила белорусскому послу Владимиру Герасимовичу о своем желании передать ему подписи. Организация также просила о встрече с ним или с другим представителем посольства. Ответа так и не последовало. "В конце концов мы получили сообщение, что мы нежелательные гости в посольстве. Однако мы решили продолжить нашу акцию", — сообщили сотрудники Amnesty International.

24 февраля делегация Amnesty International прибыла к посольству Беларуси в Гааге. Коробку с собранными подписями поставили на тротуар перед посольством. Но не назвавший себя представитель посольства, который открыл дверь, отказался принять петиции. Он заявил, что факты, упомянутые в публикациях Amnesty International, не соответствуют действительности. Поэтому посольство не видит причин принимать эти подписи. Он также заявил, что права человека — это внутреннее дело страны. Когда его спросили, можно ли в ближайшее время обсудить обеспокоенность Amnesty International ситуацией с правами человека в Беларуси, он ответил, что его пост не позволяет ему комментировать этот вопрос. Члены делегации снова поставили коробку на машину и вернулись в Амстердам. По словам правозащитников, Amnesty International найдет другой способ донести обеспокоенность 250.000 граждан Нидерландов до сведения белорусских властей.

**Михаил СВЕТЛОВ.**

**КЛИНИКА**

# Золотая лихорадка

### Государство, полоская уши электората сказками о «золотой акции», пытается завладеть самыми лакомыми кусками

На днях из уст главнокомандующего мы вновь и неоднократно услышали такое малопонятное для широких кругов населения выражение, как "золотая акция". А. Лукашенко издал указ о введении этой самой "золотой акции", или особого права управления на хозяйствующих субъектах Беларуси. По государственным телеканалам активно начали крутить сюжеты, в которых белорусские хозяйственники, фактически признаваясь в своей беспомощности, просто умоляют власть ввести эту "золотую акцию" на их предприятиях. Многие телезрители подумали, что скоро на головы просящих золото должно посыпаться, как весенний град...

Напомним, что "золотая акция" в Беларуси была введена президентским указом еще в 1997г. *"для регулирования процессов приватизации"*, и с того времени ее применяли 22 раза.

Как сообщает пресс-служба президента, *"новый указ создает эффективный механизм защиты от причинения ущерба трудовому коллективу и государству вследствие просчетов в управлении предприятием. При необходимости государство будет иметь возможность вмешиваться в деятельность хозяйствующих субъектов с долей госсобственности, если в них сложилась неблагоприятная социально-экономическая ситуация"*.

"Золотая акция" может быть введена в случае, если работникам предприятия в течение трех месяцев подряд не выплачивают в полном объеме зарплату или возникла *"необходимость защиты прав и свобод граждан, обеспечение обороны и безопасности государства, соблюдение его экономических интересов"*.

В случае введения "золотой акции" на соответствующее предприятие от государства высылается представитель, который *"при необходимости корректирует в нужном направлении проводимую на предприятии экономическую политику"*.

Многие экономисты, однако, не разделяют оптимизма властей насчет эффективности механизма "золотой акции" и подвергают сомнению ее полезность для простого народа. *"Золотая акция" — это инструмент, который лишает всякого смысла институт частной собственности как таковой,* — считает руководитель научно-исследовательского центра Мизеса **Ярослав РОМАНЧУК.** — *Расширение института "золотой акции" является формой дискриминации прав собственника, она, в конечном счете, приостановит реализацию инвестиционных проектов, которые реализуются или планируются к реализации в Республике Беларусь"*.

*"По сути любая продажа госимущества, которая осуществлялась на протяжении последних лет, — а это тысячи предприятий,* — продолжает Я. Романчук, — *может быть пересмотрена и права трудовых коллективов, права акционеров могут быть резко ограничены. Что это значит? Если приватизационные сделки и договора, которые были заключены на протяжении последних десяти лет, подвергать сомнению, то ни один здравомыслящий инвестор не будет вкладывать деньги в экономику Беларуси"*. На вопрос о возможных мотивах власти активизировать реализацию проекта "золотой акции" экономист ответил так: *"Над страной висит призрак массовой теневой приватизации. Люди во власти, которые сейчас регулируют экономические потоки в стране и которые пролоббировали "золотую акцию", хотят захватить контроль над наиболее прибыльными предприятиями. А потом тихонько "подгрести" их под себя... О нормальной приватизации, в результате которой бюджет Беларуси получит максимальные доходы, будут защищены права рабочих коллективов, и речи не идет"*.

Сам же Лукашенко выдвинул совсем иную версию: *"В любом государстве собственность — самое ценное. У нас же собственность порой доставалась людям за бесценок или за гроши. Кроме того, новые хозяева частенько не выплачивают заработную плату, выкидывают на улицу людей. К тому же приватизированные предприятия стали работать хуже, чем они работали при государственной форме собственности"*.

Ярослав Романчук так прокомментировал эти слова: *"Министерство экономики в одном из своих последних анализов озвучило следующую информацию: чистая прибыль на рубль активов в государственном секторе экономики составляет 4 копейки, а в частном — 9 копеек. Кроме того, госсектор имеет массу льгот, ему с легкостью предоставляют кредиты, списывают долги, гарантируют сбыт. В таких условиях частным предприятиям трудно конкурировать с государственными. Это то же самое, что выходить на ринг вместе с боксером, у которого привязали руку к туловищу и подбили ногу. Это — несправедливая конкуренция"*.

Очевидно, что государство, полоская уши электората сказками о загадочной "золотой акции", пытается завладеть самыми лакомыми кусками. А завтра столь нелюбимое властями слово "приватизация" может стать одним из самых часто употребляемых. Во всяком случае, основные претенденты на уже однажды приватизированные в Беларуси предприятия пытаются определиться уже сейчас. Старт золотой лихорадке дан...

Что, "прихватизация" в стране может пойти по второму кругу?

**Александр СИЛИЧ.**

### Словарик «Народной воли»

**ЗОЛОТАЯ АКЦИЯ** — условная акция, сохраняемая в руках государственного органа, ведающего приватизируемым государственным предприятием, преобразуемым в акционерное общество. Такая акция дает на определенный период времени государственному органу решающий голос на собрании акционеров, что необходимо для сохранения влияния государства на некоторые акционируемые предприятия, деятельность которых глубоко затрагивает государственные и общественные интересы.

**ВЕРСІІ**

# Ці стане Уладзімір Рушайла новым амбасадарам Расіі ў Беларусі?

*Пасля адстаўкі Міхаіла Касьянава расійскія сродкі масавай інфармацыі штодзень пішуць пра магчымы склад новага ўрада сваёй краіны. І калі раней асноўная гаворка вялася вакол фігуры новага прэм'ера, то цяпер аглядальнікі разглядаюць магчымыя варыянты новага складу кабінета міністраў.*

Пры пэўным раскладзе змены ў расійскай вярхушцы могуць непасрэдна закрануць і Беларусь. Якім чынам? А вось якім. Некаторымі аналітыкамі прагназуецца, што цяперашні амбасадар Расіі ў Злучаных Штатах Амерыкі Юрый Ушакоў будзе прызначаны міністрам замежных спраў. Цяперашні выконваючы абавязкі міністра Ігар Іваноў пяройдзе на пасаду сакратара Савета Бяспекі. А Уладзімір Рушайла, які цяпер узначальвае Саўбез, будзе, хутчэй за ўсё, "накіраваны ў ганаровую ссылку ў якасці амбасадара". Называецца і краіна, дзе, магчыма, будзе працаваць генерал Рушайла. Гэта Беларусь.

Наколькі такі варыянт магчымы? Пачнём з першага — міністра замежных спраў. Шмат хто з маскоўскіх аналітыкаў лічыць, што Ігар Іваноў усё ж не дацягвае да кіраўніка знешнепалітычнага ведамства такой буйной краіны, як Расія. Ён быў ідэальным намеснікам міністра. Аднак чалавек, які вызначае знешнюю палітыку Расіі, павінен быць сапраўдным генератарам новых ідэй і ініцыятыў. Гэта тое, што бракуе Ігару Іванову. Таму з'яўленне новага кіраўніка знешнепалітычнага ведамства суседняй краіны выглядае як быццам аб'ектыўнай неабходнасцю.

Ці можа Ігар Іваноў стаць сакратаром Савета Бяспекі? На мой погляд, чаму ж не. Не будзем забывацца, што Савет Бяспекі Расіі цяпер зусім не тая магутная і ўплывовая арганізацыя, якой яна была ў тыя часы, калі сакратарскае месца займалі такія асобы, як Аляксандр Лебедзь альбо Сяргей Іваноў. Пасля пераходу генерала Іванова ў Міністэрства абароны Саўбез стаў куды менш уплывовай арганізацыяй.

І апошняе — ці можа Уладзімір Рушайла ўзначаліць расійскую амбасаду ў Беларусі? Гэтага таксама нельга выключаць. І не таму, што цяперашні амбасадар Аляксандр Блахін чымсьці не задавальняе кіраўніцтва сваёй краіны. Маскоўскія аналітыкі глядзяць наперад, у будучыню. Яны не выключаюць, што ў Беларусі могуць адбыцца, скажам так, даволі цікавыя падзеі. Наперадзе ўсё ж — парламенцкія выбары, затым выбары кіраўніка дзяржавы. І таму, як лічаць у Маскве, у Мінску патрэбна мець чалавека, які мае асабіста цесныя сувязі з кіраўнікамі беларускіх сілавых структур. Лепшага чалавека, чым Рушайла, калі зыходзіць з гэтага крытэрыя, у Маскве, мабыць, і сапраўды не знойдзеш.

**P.S.** Я цудоўна разумею, што праз некалькі дзён, калі будзе сфарміраваны новы ўрад Расіі, гэтая версія альбо пацвердзіцца, альбо я траплю, як кажуць, пальцам у неба. Калі падзеі пойдуць па другім варыянце, то хачу загадзя адказаць сваім магчымым "лабастым" крытыкам: "Як жа вашы прагнозы?! Чаму ніхто сярод мноства кандыдатаў у расійскія прэм'еры не ўзгадаў Міхаіла Фрадкова?"

**Уладзімір ГЛОД.**

**СІТУАЦЫЯ**

## *Уладзімір ДУНАЕЎ:*
# «Галоўнай мішэнню з'яўляецца не рэктар, а універсітэт»

Сітуацыя вакол Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта (ЕГУ), звязаная з адстаўкай рэктара Анатоля Міхайлава, павінна вырашыцца ў бліжэйшыя паўтара месяца.

Як зазначыў у інтэрв'ю БелаПАН першы прарэктар ЕГУ **Уладзімір Дунаеў,** *"хутка Міністэрства адукацыі пяройдзе ў наступ, паколькі інструменты для гэтага ў яго ёсць: ліцэнзаванне і акрэдытацыя"*. Паводле яго слоў, пытанне аб акрэдытацыі універсітэта і падаўжэнні ліцэнзіі павінна быць вырашана да 1 мая гэтага года. *"Калі высветліцца, што тыя страты, якія панясе краіна і Міністэрства адукацыі каштуюць таго, значыць зробяць такія крокі і рэктар будзе зняты, — падкрэсліў ён. — Магчыма, у міністэрстве выспяваюць альтэрнатыўныя планы наконт універсітэта. Паколькі атака нечакана наткнулася на сур'ёзнае супраціўленне як унутры універсітэта, так і ў міжнародным плане"*.

Разам з тым першы прарэктар ВНУ паведаміў, што навучальны працэс ва універсітэце ідзе бесперапынна, *"апошнія падзеі не выклікалі ніякай дэмаралізацыі: выкладчыкі і студэнты паводзяць сябе сабрана і арганізавана"*. На думку У.Дунаева, "хутчэй за ўсё галоўнай мішэнню ў дадзенай сітуацыі з'яўляецца не сам рэктар, а універсітэт у цэлым". "Хутчэй за ўсё ў міністэрстве не падзяляюць нашых уяўленняў аб важнасці універсітэцкай аўтаноміі і акадэмічных свабод, — сказаў ён. — Гэтая супярэчнасць, напэўна, і з'явілася прычынай такой сітуацыі".

Нагадаем, што 21 студзеня міністр адукацыі Аляксандр Радзькоў выклікаў рэктара Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта акадэміка Анатоля Міхайлава і прапанаваў яму падаць у адстаўку са сваёй пасады. Падчас другой сустрэчы з міністрам (9 лютага) рэктар ЕГУ праінфармаваў А.Радзькова аб тым, што пасля кансультацый з калектывам універсітэта, замежнымі донарамі і партнёрамі прыняў рашэнне адхіліць прапанову міністра аб адстаўцы з пасады рэктара.

На сённяшні дзень у ЕГУ вучыцца адна тысяча студэнтаў. Паводле звестак даследавання, праведзенага ва універсітэце, 41 працэнт выпускнікоў ВНУ працаўладкаваны ў дзяржаўных структурах.

**Вольга АСІПЕНКА.**

